Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 8 16-22 чэрвеня 1995 года ЦАНА 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ



Падзея тыдня

## Нацыянальны... ужо не Маладзечанскі

**З 13 па 15 чэрвеня ў сталіцы нашай рэспублікі праходзіў III Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Мінск-95».**

Каментарый рэдакцыі.

*На першы погляд усё было амаль як у мінулыя гады ў Маладзечне: адкрыццё фестывалю з удзелам зорак беларускай эстрады, славутых ансамбляў, кампазітараў і паэтаў, конкурс маладых спевакоў і вялікі гала-канцэрт. Праўда, адсутнічала адпаведная эмблема і не выконваўся традыцыйны фестывальны гімн. Гэта і зразумела. Бо канцэрты праходзілі не на маладзечанскім стадыёне ў прысутнасці шматтысячнай аўдыторыі гледачоў, а ў канцэртнай зале «Мінск». Апошні фактар, дарэчы, таксама ўнёс заўважныя карэктывы ў свята: не адчувалася сапраўднай шырыні, таго размаху, якія былі ўласцівы папярэднім фестывалям «Маладзечна-93» і «Маладзечна-94».*

І ўсё ж цудоўна, што фестываль увогуле адбыўся, не парушылася добрая традыцыя. Хаця, як адзначыў на адкрыцці свята народны паэт Беларусі Васіль Зуёнак, вельмі шкада, што маладзечанцы адмовіліся прадоўжыць яе. Ён выказаў спадзяванне, што гэта часовая з'ява і фестываль усё ж вернецца ў Маладзечна.

Хацелася б у гэта верыць. Аднак сённяшняе становішча спраў у горадзе не дае падстаў спадзявацца на нешта лепшае ў бліжэйшы час. Шырокая рэклама «горада сонца» у асобных сродках масавай інфармацыі, магчыма, і стварыла ў многіх жыхароў рэспублікі ўражанне аб Маладзечне, як аб нейкім Кландайку. Але мясцовыя жыхары так зусім не лічаць.

Добра, што і новае кіраўніцтва горада не імкнецца пускаць пыл у вочы, а рэальна ацэньвае ўзнікшыя праблемы. Адна з іх — недахоп бюджэтных сродкаў. Аб якім фестывалі можа цяпер ісці гаворка, калі няма грошай пабудаваць дом для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны? Яго, між іншым, абяцалі здаць яшчэ да 50-годдзя Дня Перамогі.

Сумны выгляд мае будаўнічая пляцоўка, дзе ўзводзіцца гарадскі Дом культуры (на здымку). Парадаксальна, але фестывальны горад дагэтуль не мае дастаткова ўмяшчальнай і абсталяванай глядзельнай залы, куды б не сорамна было запрашаць з канцэртамі сталічных артыстаў.

У рашэнні гэтых і іншых праблем, маладзечанцам патрэбна дапамога. І тады свой фестываль яны болей нікому не аддадуць.

*Фота Ірыны Карпіцкай.*





## Чужое гора — знаходка для нягоднікаў?

*Аўтамабільная катастрофа, якая адбылася на пачатку дня 7 чэрвеня пры выездзе з Маладзечна на дарозе Мінск—Нарач, абрастае ўсё новымі чуткамі. Цяпер побач разбітага аўтамабіля «Форд Сіера» з дзяржаўнымі нумарамі Літвы ВКС-871, што знаходзіцца ў кутку платнай аўтастаянкі па вуліцы Касманаўтаў (на здымку) нярэдка можна бачыць людзей, якія расказваюць аб падрабязнасцях трагедыі, фактах марадзёрства.*

Адна знаёмая жанчына, напрыклад, расказала мне, што ў загінуўшага вадзіцеля на шыі быў вельмі дарагі залаты ланцужок і яго знялі. Ад суседа пачуў, што машыну ўвогуле разукамплектавалі; а з загінуўшых паздымалі ўсе дарагія рэчы.

Факты страшныя. Ці адпавядаюць яны рэальнасці? Пакуль следчыя органы не даюць цвёрдага адказу на гэтае пытанне. Ідзе следства. І, відаць, усе кропкі над «і» будуць расстаўлены пасля таго, як дасць паказанні адзіная ўцалеўшая пасажырка, якая цяпер знаходзіцца ў бальніцы.

*Віктар КАЗЛОЎСКІ.*
*Фота Ірыны Карпіцкай.*

Як жыве «прэзідэнт» раёна? -2-я стар.

Бывае ж!

## Выбаршчыкі далі наказ: дапамажыце навесці парадак у школьнай прыбіральні

*ВАЛОЖЫНШЧЫНА. У перыяд выбарчай кампаніі жыхары нават аддаленых ад раённага цэнтра вёсак змаглі пазнаёміцца з кіраўнікамі самых розных рангаў, якія робяць спробы заваяваць іх прыхільнасць.*

Так у цэнтр калгаса імя Чарняхоўскага — вёску Адамава завітаў нядаўна галоўны санітарны ўрач раёна Уладзімір Рызгунскі — былы прэтэндэнт на мандат дэпутата абласнога Савета. А мясцовыя настаўнікі без усялякіх уступаў павялі яго на экскурсію ў школьную прыбіральню, якая яго, як галоўнага санітарнага ўрача павінна была ўразіць. Неаднаразовыя ж звароты да кіраўніцтва калгаса дапамагчы навесці тут парадак вісяць у паветры. Як і нараканні на тое, што тэмпература ў пакоях прыстасаванага пад школу будынка ўзімку не падымалася вышэй дзесяці градусаў і практычна ўсе вучні хварэлі. «Стану дэпутатам ці не, але школе дапамагу», — паабяцаў настаўнікам Уладзімір Уладзіміравіч.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

Святкуем!

## На Сёмуху не абыйшлося без гасцей.

*Дваццаць фальклорных калектываў Міншчыны дэманстравалі сваё майстэрства на прайшоўшым у Вілейцы свяце народнага мастацтва. Сярод іх былі і праслаўленыя, такія, як шырока вядомы ў рэспубліцы «Жыцень», і малавядомыя, дзе песня стала аб'ядноўваючым пачаткам для дзесяткаў вяскоўцаў.*

З раніцы жыхары Вілейшчыны святкавалі Сёмуху, вялікае рэлігійнае свята, якое асабліва шануецца праваслаўнай царквой. Перад вяскоўцамі выступілі самадзейныя артысты Міншчыны.

А з чатырнаццаці гадзін ім была прадастаўлена сцэнічная пляцоўка гарадскога парку. Ва ўдзячных гледачах недахопу не было, бо і гараджан ў гэты спякотны дзень у парку сабралася шмат.

Асабліва цёпла сустракалі вілейчане сваіх землякоў-ансамбль народнай музыкі «Весялінка».

